*Мілагучнае, звонкае, спеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com **Выданьне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС»** №5(5) чэрвень 2000 г.

## Электарат расчараваўся ў сваім абранніку




***Графік сацыялагічнага апытання***

Нішто не вечнае пад Месяцам, асабліва ж рэйтынгі народнага даверу. Падобна таму, як маладзік няўмольна ператвараецца ў ветах, так саслабляюцца і знікаюць у нашай непрагляднай эканамічнай цемры спадзяванні, давер і прыхільнасць электарата, які прывёў А.Лукашэнку на пасаду прэзідэнта. Звычныя спасылкі ў прамовах А.Лукашэнкі на галасы выбаршчыкаў 1994 года як на нязменны падмурак ягонай улады сёння ўжо не адпавядаюць рэчаіснасці. Абяцаныя змены да лепшага не адбыліся, наадварот, сацыяльнае становішча людзей у параўнанні з 1994 годам моцна пагоршылася, што і дае падставы думаць пра іншага абранніка. Пра гэта сведчаць вынікі праведзенага напрыканцы красавіка апытання каля 1.500 рэспандэнтаў па рэспубліцы і 250 па сталіцы.

Дадзеныя гэтага апытання даюць ясна акрэслены партрэт сённяшніх настрояў электарата ў стаўленні да А.Лукашэнкі. Першы малюнак дэманструе, як гэта залежыць ад узросту.

Гэтыя агульныя лічбы раскладаюцца па ўзроставых групах з паказальнай поўнай стратай даверу да А.Лукашэнкі сярод моладзі і найбольш працаздольных слаёў насельніцтва.

Чатыры нулі ў сталіцы і нязначныя лічбы падтрымкі ў цэлым па рэспубліцы па найбольш колькасных і перспектыўных групах падобныя на сумныя ўдары званоў. Мала чым розняцца ад гэтых паказчыкаў вынікі апытання рэспандэнтаў па іх сацыяльным статусе. Адносіны да А.Лукашэнкі як да асобы, адказнай за прыняты і здзейснены эканамічны курс, сведчаць, што шырокая думка ўжо асэнсавала вытокі сацыяльных бедстваў.

У самым галоўным — магчымасці мець працу, зарабляць, утрымоўваць сям'ю, задавальняць сацыяльныя патрэбы — палітыка А.Лукашэнкі і ўрада не падмацоўваецца даверам і таму апрыорна асуджаная на правал, нават без уліку таго, што наш «рыначны сацыялізм» не стасуецца з «рынкам» Расіі. Звяртае на сябе ўвагу мізэрная колькасць прыхільнікаў А.Лукашэнкі сярод навучэнцаў, гэта значыць сярод тых, хто прыйдзе ў актыўнае грамадскае і эканамічнае жыццё заўтра.

Увогуле, у залежнасці ад адукацыі найвялікшы працэнт прыхільнікаў А.Лукашэнкі выяўляе электарат з пачатковай адукацыяй (38,1) і найменшы (3,4%) — асобы з вышэйшай ці незакончанай вышэйшай адукацыяй. Праціўнікаў А.Лукашэнкі з вышэйшай адукацыяй у 11,5 разоў болей, чым яго прыхільнікаў з такім жа дыпломам. У Мінску апытанне сярод добра адукаваных слаёў не выявіла прыхільнікаў першага прэзідэнта наогул, але паказала, што перакананыя яго праціўнікі складаюць 47,5%.

Варта дадаць, што па ўмовах апытання перакананымі прыхільнікамі А.Лукашэнкі лічацца тыя, хто адначасна гатовы прагаласаваць за яго ізноў на выбарах прэзідэнта РБ і адначасна як за прэзідэнта «саюзнай дзяржавы». Адпаведна перакананыя праціўнікі – гэта асобы, якія трымаюцца адваротнага погляду па гэтых пытаннях і не аддадуць свой голас за А.Лукашэнку ні пры якіх умовах.

Палова рэспандэнтаў, якая пры адказе на кожнае пытанне вагаецца ці асцярожна выказвае сапраўднае меркаванне, лічачы, што гэта ў сённяшніх варунках небяспечна, ці яшчэ спадзяецца на нейкі эканамічны цуд. Тэндэнцыя памяншэння гэтай часткі электарата нагэтулькі відавочная, а магчымасць цуду нагэтулькі мізэрная, што паслабленне прыхільнікаў і павелічэнне колькасці праціўнікаў палітыкі А.Лукашэнкі сведчыць, што «шлюб», аформлены ў 1994 годзе, страціў прывабнасць і можа быць скасаваны юрыдычна на выбарах. Магчыма, гэта галоўная прычына, па якой яны не праводзяцца.

*«Наша свабода»*

## Беларусь пастаўляе зброю Садаму Хусейну

Артыкул «Расія дапамагае аднавіць іракскія сродкі СПА» журналіста Кона Кофліна з Sunday Telegraph мы друкуем без змяненняў.

Расійскія вайсковыя чыны спрабуюць арганізаваць шматмільённую справу з Садамам Хусейнам, якая забяспечыць іракскаму лідэру поўнае аднаўленне сістэмы супрацьпаветранай абароны. Сумнеўная справа, якая з'яўляецца грубым парушэннем эмбарга ААН на гандаль зброяй, была падрабязна абумоўленая паміж Багдадам і вайсковымі экспертамі з былой савецкай рэспублікі Беларусь. У выпадку яе ажыццяўлення Ірак атрымае магчымасць для прыцэльнай паразы брытанскіх і амерыканскіх самалётаў.



Згодна з дамовай, дэталі якой раней узгадваліся ў «Тэлеграф», «Белтэхэкспарт» — беларуская дзяржаўная кампанія, што спецыялізуецца на вайсковай тэхніцы – пагадзілася аднавіць іракскую сістэму СПА, перабудаваць ВПС і правесці падрыхтоўку вайскоўцаў СПА. Памер справы ацэньваецца прыкладна ў 90 мільёнаў долараў. Яна была дамоўленая падчас візіту ў Багдад дэлегацыі беларускіх высокапастаўленых асобаў.

*Працяг на ст. 2*

# Беларусь пастаўляе зброю Садаму Хусейну



Расія ўпершыню прыняла ўдзел у перамовах у ліпені 1999 г., калі ў яе атрымалася арганізаваць сустрэчу Тарыка Азіза, намесніка прэм'ер-міністра Ірака, і Сяргея Лінга, прэм'ер-міністра Беларусі. Расійцы выступалі ў якасці пасрэднікаў пасля таго, як нюансы іх асабістай сакрэтнай справы па гандлі зброяй у 100 мільёнаў доляраў, заключанай паміж Багдадам і ў той час прэм'ерам Расіі Яўгенам Прымаковым, былі агучаныя ў «Тэлеграф» з жорсткай рэакцыяй Захаду.

Каб не моцна раздражняць Захад, асабліва Амерыку, Крэмль аддаў загад пра тое, каб усе наступныя перамовы па пастаўцы зброі ў Ірак праводзіліся ў прысутнасці пасрэднікаў. Высокапастаўленыя дэлегацыі Беларусі і Ірака былі запрошаныя ў Маскву, дзе паміж імі была заключаная дамова, падобная да той, што раней заключалі Хусейн з Прымаковым.

Асноўным кампанентам дамовы стала перабудова супрацьпаветраных ракетаў SA-3, што дазволіла павялічыць радыус іх дзеяння з 12 да 18 міляў. У шэрагу з гэтым планавалася правесці аднаўленне састарэлых іракскіх ракетаў. СПА Ірака мелі намер накіраваць сваіх жаўнераў для праходжання спецыялізаванай кадравай падрыхтоўкі на Беларусь, дзе іх павінны былі б азнаёміць з найноўшым расійскім электронным абсталяваннем. Беларускі бок таксама ўзяў на сябе абавязальніцтвы па рамонце 17 савецкіх самалётаў, што належаць Іраку, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі з канца васьмідзесятых. Папярэдні кантракт па іх тэхнічным абслугоўванні быў разарваны ў сувязі з нявыплатай іракскім бокам патрэбных сродкаў. Аднак пасля таго, як Ірак паабяцаў выплаціць 6 мільёнаў доляраў, беларусы пагадзіліся аднавіць працы па капрамонце тэхнікі на заводзе ў Баранавічах.

Заключэннем кантракта з Беларуссю кіраваў асабіста намеснік міністра замежных справаў Ірака Нуры аль Ваіз. Аль Ваіз з'яўляецца блізкім сябрам малодшага сына Садама – Кусэя, які займаецца аднаўленнем вайсковай інфраструктуры краіны.

Заходнія дыпламаты выказалі занепакоенасць апошнімі спробамі Ірака аднавіць войска, асабліва ў кантэксце нядаўніх марных спробаў ААН па ўсталяванні ўзаемаадносінаў паміж Іракам і Захадам. «Любая дамоўленасць, якая дазволіла б Садаму вярнуць былую вайсковую моц, скрайне непажаданая», – заявіў на мінулым тыдні адзін чыноўнік: «Ірак усё яшчэ падвергнуты жорсткім міжнародным санкцыям, якія трэба неадступна выконваць».

P.S. Учора, калі матэрыял рыхтаваўся да друку, стала вядома, што ўсе цэнтральныя беларускія газеты надрукавалі своеасаблівы адказ Савета Бяспекі Беларусі на гэтую публікацыю.

Прэс-цэнтр Савета Бяспекі спрабуе пераканаць міжнароднага і беларускага чытача, што брытанская газета памылілася, і прыведзеныя ў ёй звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці. Як сцвярджае СБ, «беларускі бок не супрацоўнічаў і не супрацоўнічае з Іракам у ваеннай галіне». Прымаючы ментарскі тон, супрацоўнікі прэс-цэнтра нават мякка дакараюць брытанскае выданне: «Застаецца шкадаваць, што такое аўтарытэтнае выданне, як The Telegraph, надрукавала недакладную інфармацыю, якая дэзарыентуе грамадскасць і дыскрэдытуе міралюбную знешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь, якая заўсёды строга прытрымлівалася і прытрымліваецца рашэнняў ААН, нормаў і прынцыпаў міжнароднага права».

Савет Бяспекі паклапаціўся пра тое, каб змясціць абвяржэнне ва ўсіх асноўных дзяржаўных газетах. Але ніводная такая газета не наважылася надрукаваць артыкул з The Sunday Telegraph. Атрымліваецца, што чытачам незалежнай прэсы дастаецца інфармацыя, а вось чытачам дзяржаўных выданняў – толькі абвяржэнні.

*«Наша свабода»*

# Вы размаўляеце па-латыску?

Апошні час зноў выявіў праблему сужыцця Маскоўшчыны з суседзямі. Крэмаль вінавацяць у спробах дэстабілізацыі сытуацыі, Расея вярнулася і да сваёй даўняй сфэры інтарэсаў — Балтыі. Галоўны ўдар накіраваны на Латвію, дзе каля 30% жыхароў расейскага паходжаньня і дзе вялікая прысутнасьць расейскага капіталу.

Расея ўлівае вялізныя грошы ў латвійскія філіі такіх расейскіх фашыстоўскіх арганізацыяў, як РНЕ, а таксама праз падкантрольныя мэдыі спрабуе кампрамэтаваць тых палітыкаў і ўрадаўцаў, якія пярэчаць інтарэсам расейскага бізнэсу ў Латвіі. Іншая стратэгія Расеі — нагнятаньне страху і варожасьці сярод некарэннага насельніцтва краіны. Заклапочаная гэтымі атакамі прэзыдэнт Латвіі Вайра Віке-Фрайбэрге нядаўна адкрыта абвінаваціла Расею ў замахах на незалежнасьць Латвіі, чым адразу прыцягнула ўвагу сьвету да стасункаў Рыгі з былой мэтраполіяй. Сьвет адрэагаваў на заяву з спагадаю.

Расейска-латыскія дачыненьні ніколі не былі цёплымі, але найбольш псавацца яны пачалі зь вясны 1998 г.

Латвія хутка дасягнула поўнай палітычнай самастойнасьці і адракласа савецкай культурнай спадчыны, абапіраючыся на нямецкую помач. ФРН стала другім па значэньні гандлёвым партнэрам Латвіі (12-15% экспарту-імпарту) Але асноўным эканамічным партнэрам Латвіі, у адрозьненьне ад выпадкаў Літвы і Эстоніі, фатальна заставалася Расея.

Найбольшай праблемай Латвіі, апроч як прывязанасьць да нестабільнай і крымiналізаванай расейскай эканомікі, зьяўляецца дэмаграфічная. Насельніцтва меншае штогод на 8-10 тыс. Доля латышоў у насельніцтве пабольшала да 56,5% (52% за Саветамі), але дзеля адмоўнага дэмаграфічнага росту цяпер латышоў застаецца менш, чым у 1939 г.

Праграмы ўсіх латыскіх партыяў амаль аднолькавыя і дэкляруюць вартасьці незалежнасьці і інтэграцыі ў Эўразьвяз і NATO. Адрозьніваюцца ж яны стаўленьнем да пытаньня грамадзянства і неграмадзянаў (левыя прапануюць вырашыць гэтае пытаньне больш лібэральна). Пытаньне гэтае ключавое для латыскай палітыкі, бо грамадзянамі краіны зьяўляюцца толькі каля 75% насельніцтва. Яно далікатнае: некантраляваная інтэграцыя ў грамадзтва неграмадзянаў расейскага паходжаньня можа паставіць пад пагрозу нацыянальную адметнасьць краіны.

Таму гэтае пытаньне жорстка стаіць у Латвіі: існуе нават адмысловая пасада моўнага інспэктара, якіх 18 на краіну з 2,6 мільёнамі жыхароў. Яны завітаюць ва ўсякую ўстанову й фірму, калі ўведаюць, што там мала размаўляюць па-латыску. Іншыя зь іх могуць нават прыкінуцца кліентамі. Калі ж знойдуць парушэньні, то штрафы сягаюць дзясяткаў даляраў. Кожны нелатыш мусіць мець сэртыфікат пра веданьне латыскай мовы. Сэртыфікат мае тры ступені, у залежнасьці ад таго, дзе чалавек працуе.

Калі праца мінімальна зьвязаная са зносінамі зь людзьмі, дык дастаткова мінімальнага веданьня мовы, а вось, скажам, прадаўцы ўжо мусяць мець сярэднюю ступень. Загадчыкі ж крамаў маюць валодаць сэртыфікатам найвышэйшай ступені. Іншым разам сэртыфікаты падрабляюць і купляюць, таму моўны інспэктар спраўджвае веданьне мовы на практыцы: прадавец павінен ведаць латыскія назвы таго, што ён прадае, цырульнік — назвы, прыкладам, шчыпцоў для завіўкі. Муніцыпальная моўная інспэкцыя рэагуе на заявы грамадзянаў пра тое, што іх недзе не абслужылі па-латыску. Абсалютна ўсё, ад чэкаў да інструкцыяў, павінна мець адпаведнік на латыскай мове.

Пры ўсім гэтым у пяцёх найвялікшых местах краіны: Рызе, Лібаве, Дзьвінску, Вэнтспілсе і Ялгаве — яшчэ й сёньня латыскамоўныя ў меншасьці. Трэба сказаць, што латышы і расейскамоўныя ў цэлым суіснуюць мірна і падпарадкоўваюцца канстытуцыйным нормам.

Мы ж пакуль што толькі марым пра такое жыцьцё, як у Латвіі. У нас дагэтуль любы пан — ад міліцэйскага чыноўніка да кантралёра ў транспарце — калі толькі хоча, можа дазволіць сабе папаляваць або папляваць на грамадзянаў, што ня ведаюць расейскай мовы. Ужываючы далёка не канстытуцыйныя мэтады.

*Сяргей Радштэйн , «Наша Ніва»*

## Слоўнічак

Працягваючы тэму пра цікавыя слоўнікі, хацелася б узгадаць яшчэ адзін: «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак» Янкі Станкевіча, які быў выдадзены ў 1952 годзе ў Нью-Ёрку, а пазьней — у Менску ў 1992 годзе рэпрынтным выданьнем. Кніга хоць і маленькая, але вельмі цікавая, каштоўная і папулярная, таму раім вам набыць яе ў Таварыстве беларускай мовы (Менск, Румянцава, 13) ці замовіць у рэдакцыі «Вераса». Пры аб'ёме ў 80 старонак яе кошт складае ў Віцебску каля 200 рублёў. Пачынаючы з гэтага нумара мы плянуем зьмяшчаць агляд найбольш цікавых артыкулаў са слоўніка. Пачнем жа з разьдзелаў «Прывітаньні і зычэньні», «Ветлыя звароты» і «Тое-сёе з сынтаксу».

Сустракаючыся нараніцы або сярод дня, беларусы вітаюцца словам «Дабрыдзень» ці «Добры дзень». Казаньне «Добрай раніцы» — русізм. Сустракаючыся ўвечары, вітаюцца словам «Дабрывечар» ці «Добры вечар». Вельмі часта, незалежна ад пары дня, пры гэтым кажуць: «Як маесься?» ці «Як маецеся?» (адпавядае расейскаму «Как поживаешь/-ете?»). Падыходзячы да працуючых, кажуць «Памажы, Божа!», на што чуюць «Дзякуй!». Калі чалавек у дадзены момант прымае ежу, яму жадаюць «Смачна есьці» (рас. «Приятного аппетита»).

Раней пры разьвітаньні той, хто адыходзе, казаў «Заставайся здароў!». На гэта атрымліваў адказ «Ідзі здаровы!». Пазьней сталі ўжываць форму «Бывай здароў!», якая дайшла да нашых часоў у выглядзе кароткага «Бывай!». Разьвітваючыся ўвечары, яшчэ казалі «Дабранач!». Існуе таксама больш афіцыйная форма — «Да пабачэньня!», якую ўжываюць маладзейшыя ў адносінах да старэйшых.

Расейскае «господин» адказвае беларускаму «спадар»; «госпожа» — «спадарыня». Калі зьвяртаемся да мужчын і жанчын разам, дык кажам «спадарства». Беларускае «пан» мае значэньне клясавае і адказвае маскоўскаму «барин», а не «господин»; «пані» — «барыня» (а не «госпожа»); «паненка» —»барышня». Гэтак сцьвярджае Янка Станкевіч, аднак ад сябе хачу дадаць, што ў нашыя часы слова «паненка» вельмі актыўна ўжываецца ў якасьці ветлівага зварота да маладых дзяўчын.

Казаньне «ён, яна, яны» на паважаных старшых людзей адчуваецца як некаторае ўлегцыменьне. У гэткіх выпадках дзеля пашаны трэба ўжываць спакменьнік (прыкладам, «вучыцель казаў; загадчыца прасіла», а не «ён казаў; яна прасіла»). Калі зьвяртаюцца не да старэйшых, а да роўных, дык ужываецца яшчэ слова «сам»: «Як сам маесься?», «Добра сам кажаш», «Куды сам ідзеш?», і г.д. Гэты займеньнік дае адценьне большае пашаны, чым «ты». Ён жа ставіцца і ва множным ліку: «Як самі маецеся?, «Добра самі кажаце» (адпавядае расейскаму «Как вы поживаете?», «Правильно/хорошо вы говорите»).

Трохі пра ўжываньне ступеняў параўнаньня. Кажуць «мой конь лепшы за твайго; у месьце дамы вышэйшыя за гэтыя; увясну трава зелянейшая» і да т.п., а ня «мой конь лепей за твайго» ці «недзе дамы вышэй за гэтыя» і г.д. Значыць, пры параўнаньнях ужываецца вышэйшая ступень прыметніка, а ня прыслоўя. У беларускай мове вышэйшая ступень ніколі ня ўжываецца ў значэньні найвышэйшай. Значыць нельга, напрыклад, сказаць «Гэта прасьцейшы спосаб рашэньня пытаньня» ці «Гэта лепшы чалавек» у значэньнях «найпрасьцейшы спосаб» і «найлепшы чалавек». Такія расейскія сказы, як «Ближайшая деревня от города — 50 км»; «Прямая линия есть кратчайшее расстояние между двумя точками»; «Через микроскоп видны мельчайшие существа» і пад., у якіх найвышэйшая мера выказваецца пры дапамозе вышэйшай (а не найвышэйшай) ступені, перакладаюцца так: «Найбліжэйшае сяло ад места — 50 км»; «Простая лінія ёсьць найкарацейшая адлегласьць між двума пунктамі»; «Праз мікраскоп бачныя найдрабнейшыя стварэньні». Найвышэйшая ступень ніколі не ўтвараецца пры дапамозе слова «самы», а пры помачы «най-». Прыклады: «Гэты сын наймалодшы» (а ня «самы малодшы»); «Яблык найсакаўнейшы» (а ня «самы сакаўны») і г.д.

Вось такога кшталту разьдзелы зьмешчаныя ў «Маленькім ... слоўніку». Чакайце працяг у наступных нумарах нашага бюлетэня.

*Манцэвіч Яраслаў, «Верас»*

## Гадавіна Беларускага відэаклуба

Год таму, напачатку траўня 1999 г. у Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўтварыўся Беларускі відэаклуб. Гэта была ініцыятыва моладзевай плыні ТБМ, мэтай якой было данясенне да беларусаў відэа на іх роднай мове. Па-першае, гэта рабілася для тых суайчыннікаў, для каго іншыя мовы не сталі болей даступнымі (у тым ліку і расейская) і каму не стае роднай мовы шмат у якіх абсягах жыцця; па-другое, для тых, хто хоча вярнуцца да мовы сваіх продкаў; па-трэцяе гэта робіцца, каб прабудзіць у беларусаў, выхаваных у расейшчыне, любоў да роднай мовы.

*Працяг на ст. 4*

# Гадавіна Беларускага відэаклуба

Днём нараджэння лічыцца 5 траўня 1999 года, бо менавіта ў гэты дзень у сядзібе ТБМ быў зладжаны паказ першага відэафільма у перакладзе на беларускую мову «Пяты элемент». Дарэчы у гэты ж час фірма «Сотвар» упершыню пераклала на беларускую мову мультфільм «Прыгажуня ў сонным лесе». Гэты і наступныя мультфільмы, перакладзеныя фірмай, ўвайшлі ў фільматэку Беларускага відэаклуба.

Пашырэнне беларускамоўнага відэа адбывецца у некалькіх накірунках: паказы, распаўсюджанне наяўнай прадукцыі і выпуск раней невыдаванай, пераклад замежных стужак. Важную ролю мае таксама і пашырэнне інфармацыі пра беларускамоўнае відэа. З гэтай мэтай Беларускі відэаклуб стварыў старонку ў Інтэрнэце па адрасе http://belvidea.cjb.net, а таксама выдае каталог беларускамоўнага відэа. Акрамя таго стала даецца інфармацыя ў прэсу. Сярод распаўсюджванай прадукцыі акрамя згаднага былі і музычныя відэапраграмы ад фірмы «Ковчег» і ад Беларускай Музычнай Альтэрнатывы. Што да невыдаваных раней фільмаў, дык БВК пачаў распаўсюд замежнай стужкі «Ісус» і айчынных: «Салодкі яд кахання» і «Слёзы блуднага сына».

Першым мастацкім фільмам, які пераклаў БВК, быў «Пяты элемент». Пераклад рабіўся на энтузіязме і пры падтрымцы Беларускай Музычнай Альтэрнатывы. Пазней былі перакладзеныя фільмы «Страчаны свет: Юрскі парк-2» і «Маска». Аднак дагэтуль яны, на жаль, застаюцца недапрацаванымі і не распаўсюджваюцца, а толькі дэманструюцца у відэазалах.

Беларускі відэаклуб у сваёй далейшай дзейнасці вырашыў арыентавацца на попыт гледачоў. І згодна з попытам было вырашана перакласці славуты фільм Мэла Гібсана «Адважнае сэрца». Гэта стала важнай падзеяй у культурным жыцці канца 1999 — пачатку 2000-га году ў Беларусі. Фільм атрымаў сапраўдны поспех. Арыентацыя на густы гледачоў будзе і надалей асноўным чыннікам пры выбары стужак для перакладу. раму сярод гледачоў заўсёдна праводзяцца апытанні. Нядаўна БВК атрымаў грант ад Асамблеі Няўрадавых Арганізацыяў на выданне новых стужак. Сярод іх: відэазапіс першай і другой частак канцэрту «Вольныя танцы», замежныя фільмы «Матрыца», «Прыгажуня», «Бетховен», мультфільм «Кароль Леў».

Па-за гэтым грантам плануецца перакласці фільмы польскай вытворчасці «Агнём і мячом» і «Пан Тадэуш», падзеі якіх шчыльна звязаныя з беларускай гісторыяй. Таксама ў будучыні плануецца выдаць на відэа вядомыя айчынныя кінастужкі. Што да такога накірунку дзейнасці як дэманстрацыя фільмаў, дык беларускія відэазалы паўсталі таксама ў Жодзіне, Светлагорску, Лідзе, Марўінай Горцы, Магілёве, Горадні і ў іншых гарадах Беларусі.

У планах БВК — данясенне беларускамоўнага відэа да патэнцыйна зацікаўленых у ім рэгіянальных тэлекампаніяў і да школ (як добрага прыкладнога матэрыяла па беларускай мове). БВК спадзяецца, што ў будучыні дасягне поўнай аператыўнасці ў данясенні да беларусаў сусветных кінанавінак, каб у іх не ўзнікала патрэбы глядзець фільм у перакладзе на яшчэ адну замежную мову толькі таму, што свайго перакладу доўга чакаць. Калі мы дасягнем такіх магчымасцяў, то кінакультура перастане быць чужой для носьбітаў беларускай мовы.

*Віталь Станішэўскі, сябра ТБМ*

# Суводаў — суровы для Беларусі



Хто не ведае Суворава?

Нават пяцікласнік распавядзе вам і пра подзвігі гэтага генералісімуса, і пра ягонае «тяжело в учении — легко в бою». А казкі пра тое, як Аляксандр Сувораў любіў салдат, размаўляў з імі і загартоўваўся холадам і фізічнымі практыкаваннямі, лашчылі і песцілі душы кожнага ў дзяцінстве...

Гэтага дзеяча Расійскай імперыі ўслаўляюць на Беларусі. У 35 гарадах і 24 мястэчках вы можаце знайсці вуліцы, завулкі і праспэкты, названыя ў гонар графа А. Суворава. А колькі калгасаў носяць імя гэтага ваяра? Нямала.

Талент і розум гэтага чалавека відавочны. Але ці пайшоў ён на карысць беларусам? Што ж прынес беларусам знакаміты А. Сувораў?

Граф Рымнікскі, князь Італійскі, прынц Сардзінскі, генералісімус усіх сардзінскіх армій і генералісімус усіх расійскіх войскаў А.В.Сувораў правёў не адну карную аперацыю супраць беларусаў у 18 стагоддзі.

У 1768 годзе Рэч Паспалітая адчувала на сябе ўплаў Расіі. Пачынаюцца выступленні супраць расійскага панавання. Екацярына II аддае пад камандванне Сувораву цэлую брыгаду ў Смаленску, якая вучылася знішчаць беларусаў і палякаў «па-суворaўску». За поспехі ў барацьбе з «бандытамі і ворагамі» ён атрымаў званне генерала.

Новы генерал з расійскімі войскамі ў 1770-1773 гг. праводзіць зноў вайсковыя аперацыі на захадзе. Пад Люблінам і Варшавай загінула шмат беларусаў і палякаў.

«Выслужыўся» Аляксандр Сувораў і падаўленнем паўстання 1794 года. Летам яго атрады разбіваюць корпус коннікаў Серакоўскага пад Берасцем і Кобрынам.

Бітва каля Кобрына, у якой прынялі ўдзел каля 20 тысячаў жаўнераў з абодвух бакоў, была адной з самых буйных. У ёй загінула каля 3 тысячаў праціўнікаў расійскага панавання. Большасць была люта і жорстка засечана казакамі.

4 лістапада 1794 года Аляксандр Сувораў павёў свае войскі на штурм прадмесця Варшавы — Прагі. Гэты штурм ператварыўся ў разню на вуліцах горада. Сувораўскія «чудо-богатыри» не давалі літасці нікому. Горы трупаў з жаўнераў, старых, жанчын і дзяцей грувасціліся на вуліцах прадмесця, ад крыві пачырванелі нават воды Віслы...




Вось за такія вайсковыя «подзвігі», за пралітую кроў беларусаў і палякаў Екацярына II падаравала Сувораву Кобрынскую воласць з 13219 душамі сялян і надала званне фельдмаршала. А душамі ў тыя часы лічыліся толькі працаздольныя людзі, так што ў падарунак за поспехі фельдмаршал атрымаў не менш за 50 тысячаў беларусаў.

Ён заўсёды старанна выконваў загады і волю Екацярыны ІІ і Паўла І. Карныя акцыі гэтага чалавека на Беларусі спрыялі захопу беларускай тэрыторыі і ўключэнню яе ў склад Расійскай імперыі. Але ж на Беларусі ёсць помнікі гэтыму ваяру. Аляксандра Суворава ўшаноўвалі ў БССР разам са Сталінам, Берыяй, Ленінам. Помнікі Сталіну былі дэмантаваныя, Берыя быў забыты, як жудасны сон. Усе добра ведаюць, за што «змагаўся» Ленін. Застаўся культ Суворава...

У Віцебску ёсць вуліца Суворава і невялічкі бюст гэтаму генералісімусу. Але не ўсім віцябчанам падабаецца гэта. Яшчэ ў 1998 годзе у ноч з 31 жніўня на 1 верасня знік той самы бюст, які знаходзіўся каля Кастрычніцкага РАУС (гл. фота). Ля пастамента была прымацаваная цыдулка: «У 1794 годзе Суворaў патапіў паўстаньне беларусаў за незалежнасьць супраць расейскай акупацыі. Для расейцаў ён герой, для нас, беларусаў, — акупант. Помнікі Суворaву на Беларусі — гэта ганьба беларскага народа. Група беларускага вызвольнага руху Мірона яе цярпець ня будзе. Прэч акупантаў з нашай зямлі!»

Вясной 2000 года на пастаменце з'явіўся новы бюст змагара супраць беларусаў. У афіцыйных газетах горада паведамлялі, што «новага Суворава» зрабілі з якаснага бэтону на грошы, якія сабралі ваенкамата, перад якім і знаходзіцца гэты няшчасны бюст. Але ж у гэта цяжка паверыць: грошы на нейкі там помнік здаваць мала каму захочацца ды і раней, калі пастамент быў пусты, нікога з ваенкаматчыкаў гэта не турбавала. Таму чуткі пра тое, што нехта «адкупіўся» Суворавым нумар два ад войска ў тым жа ваенкамаце, могуць мець рацыю.

А ў ноч з 8 на 9 мая 2000 года нехта абліў бюст чырвонай фарбай. Фарбу доўга змывалі, але яе ўсё роўна можна пабачыць на пастаменце нават зараз.

Да таго ж, вуліцы Суворава энтузіясты «вярнулі» старую назву. Зараз пад кожнай шыльдай з нумарам дому бачны акуратны надпіс «вул. Узгорская», зроблены чырвонай фарбай пад трафарэт. Вось так не даюць спакою Аляксандру Суворaву... А ён, у сваю чаргу, не дае спакою віцябчанам. Калі ты адзін ці з сябрамі затрымаешся на некалькі хвілін каля аднаго з сімвалаў расійскага імперыялізму, з ваенкамату выскоквае чалавек, які, напэўна, прыстаўлены сачыць за бюстам, і вельмі абураецца. Некалькі такіх выпадкаў ужо было. Паспрабуйце самі...

*Юрась Землякоў, «Верас»*

# Нізка навінаў

19 траўня ў Менскім гарадзкім судзе скончылася слуханьне справы былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхала Чыгіра. Чыгір быў асуджаны на тры гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на два гады, яму на працягу 5 гадоў забаронена займаць пасады арганізацыйна-распараджальнага характару на прадпрыемствах і ва ўстановах, незалежна ад формаў уласнасьці. Міхала Чыгіра прызналі вінаватым у прадстаўленьні адтэрміноўкі па ўплаце падатку на дабаўленую вартасьць і мытных пошлінаў фірме «Піаск» за ўвезеныя ў Беларусь колавыя цягачы, згодна з часткай 2 артыкулу 167 Крымінальнага кодэксу - «перавышэньне службовых паўнамоцтваў». Суд таксама прызначыў М.Чыгіру ўплаціць 209 мільёнаў дэнамінаваных рублёў на карысьць мытні. У залі суда прысутнічалі дыпламаты практычна ўсіх заходніх дзяржаў, у тым ліку ЗША, Францыі, Германіі, Чэхіі. Прадстаўнікі заходніх краінаў указвалі на відавочны палітычны падтэкст працэсу. Людзей, якія прыйшлі на суд падтрымаць Міхала Чыгіра, у залю не пусьцілі. Два чалавекі, што выкрыквалі лёзунгі «Свабоду Чыгіру!», былі затрыманыя. Праз некаторы час іх адпусьцілі.

* * *

Міністэрства замежных справаў Ізраілю адазвала зь Менску сваіх супрацоўнікаў. Прычынай гэтаму стала, па словах прэс-сакратара пасольства Аміры Дотан, павышэньне ўзроўню радыяцыі ў сталіцы Беларусі. На радзіме супрацоўнікі пройдуць мэдычны агляд. Па дадзеных Дзяржаўнага камітэту па гідраметэаралёгіі Беларусі, у апошнія дні радыяцыйнае становішча ў краіне застаецца стабільным. Зараз перавышэньні над фонавымі значэньнямі назіраюцца толькі ў зонах радыяцыйнага забруджваньня ў Гомельскай і Магілёўскай абласьцях. Аднак практычна па ўсёй Беларусі не перастаюць хадзіць чуткі, што днямі на Чарнобыльскай АЭС адбылася новая аварыя, нават горшая за катастрофу 1986 году. Дарэчы, на наступным тыдні ў Менск прылятае група амэрыканскіх спэцыялістаў, якія намераныя правесьці дасьледваньні і разабрацца ў складзеной сытуацыі.

* * *

16-17 траўня гарадзенскую «Маладую Грамаду» наведала прадстаўніца швэцкай сацыял-дэмакратычнай студэнцкай арганізацыі Вікторыя Майбі. Асноўная мэта візыту — абмеркаваньне сумесных шведска-беларуска-расейскіх праектаў па барацьбе з наркаманіяй, адзін з якіх, дарэчы, ужо распачаўся ў Пінску. Цікавіў замежную госьцю і стан разьвіцьця сучасных сродкаў камунікацыі на Беларусі, галоўным чынам разьвітасьць сэткі ўнтэрнэт. А з 18 па 20 траўня ў Гародні знаходзілася яшчэ адна швэцкая дэлегацыя ад сацыял-дэмакратычнай моладзі Швэцыі і швэцкай Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Праграма побыту ўключае сустрэчы з апазыцыйнымі палітычнымі партыямі, незалежнымі прафсаюзамі, прадстаўнікамі нацыянальных аб'яднаньняў, моладзевымі арганізацыямі. Падчас сустрэчы зь мясцовымі сацыял-дэмакратамі абмяркоўваліся шляхі супрацоўніцтва, а таксама ход інфармацыйнай кампаніі ў падтрымку дэмакратыі на Беларусі, якая была ініцыяваная скандынаўскімі сацыял-дэмакратамі. рак, дзякуючы гэтай кампаніі, ужо працуе інтэрнэтаўскі сайт www.stopluka.nu.

* * *

За прайшоўшы год колькасьць стратных прадпрыемстваў павялічылася ў паўтары разы. Сёлета ўвесну колькасьць прадпрыемстваў, якія не прыносяць прыбытку, дасягнула чатырох з паловай тысячаў. Сума стратаў па народнай гаспадарцы склала каля 80 мільярдаў рублёў.

* * *

Адно з буйнейшых дэмакратычных моладзевых аб'яднаньняў «Малады Фронт» (mfront@visit.to) падала ў Міністэрства юстыцыі дакументы на рэгістрацыю арганізацыі. Прадстаўнікі арганізацыі нагадваюць, што ад гэтага моманту згадкі ў прэсе пра «Малады Фронт» не супярэчаць заканадаўству РБ — аж да тае пары, пакуль не будзе атрыманая афіцыйная адмова ў рэгістрацыі. Размова ідзе пра пастанову Дзяржкамдруку, паводле якой у выданьнях ня можа зьмяшчацца інфармацыя пра незарэгістраваныя арганізацыі. Зусім нядаўна газэце «Пагоня» было аб'яўленае папярэджаньне ў сувязі з тым, што ў рубрыцы прыватных аб'яваў была зьмешчаная абвестка Моладзевага антыфашыстоўскага цэнтру, ініцыятву, якая ня мае дзяржаўнай рэгістрацыі.

* * *

Японскія фірмы Mitsui і Toyo падпісалі зь Беларусьсю пагадненьні ў спаве ўдзелу ў праекце рэструктурызацыі навапалацкага нафтаперапрацоўчага камбінату. Замежныя партнэры задэкляравалі гатоўнасьць выдзеліць Беларусі на гэтыя мэты крэдыт у 90 мільёнаў даляраў ЗША. Як вядома, «Нафтан» шукае сродкі на сваю рэканструкцыю ўжо з сярэдзіны 90-х. Найбольшы інтарэс да навапалацкага гіганту да гэтага часу выказвалі расейскія кампаніі «Лукойл» і «Юкас», якія, па неафіцыйнай інфармацыі зь беларускіх СМў, згодныя ўзамен на пагашэньне беларускіх

# Нізка навінаў

зьнешніх пазыкаў атрымаць частку ўласнасьці прадпрыемства праз канцэрн «Ітэра». У супрацьлегласьці да расейцаў японскія фірмы не выказваюць прэтэнзыяў да акцыяў «Нафтану». Як лічыць беларускі ўрад, на інвэстыцыі японцаў прыдзецца яшчэ пачакаць, яны прызначаныя на канчатковую фазу рэфармаваньня нафтакамбінату. Калі японскія інвэстыцыі прыйдуць на Беларусь, гэта будзе адной зь нешматлікіх замежных інвестыцыяў, якія былі дадзеныя Беларусі (іх колькасьць складае 1-2 амэрыканскія даляры на аднаго жыхара краіны штогод).

* * *

Таварыства беларусаў «Бацькаўшчына» (right@ukrcom.sebastopol.ua ) з Сэвастопалю падтрымала ідэю скліканьня Усебеларускага зьезду ў падтрымку незалежнасьці Беларусі і выбрала дэлегатам на зьезд свайго старшыню Валера Барташа. Крыху раней, 14 траўня, на пяцігодзьдзе рэфэрэндуму, пасьля якога ў Беларусі была забароненая нацыянальная сымболіка, на Гвардзейскім мысе Сэвастопальскай бухты быў устаноўлены бела-чырвона-белы сьцяг мясцовага таварыства беларусаў.

* * *

Моладзевыя арганізацыі Берасьця сустрэліся нядаўна з адміністрацыяй мясцовага гарвыканкаму. Недалёка перад гэтым намесьнік старшыні Берасьцейскага гарвыканкаму па сувязях з грамадзкасьцю і інфармацыі Аляксандар Працэвіч публічна заявіў, што рэальна ў горадзе не існуе моцных моладзевых арганізацыяў (хіба што апроч БПСМ). Нечаканага ад прадстаўнікоў моладзевых ініцыятываў гораду быў накіраваны зварот, дзе сьцьвярджалася, што, насуперак падобным заявам, моладзевы рух шырока распаўсюджаны, і нават існуе багата праблемаў, якія ня дрэнна было б ведаць і выканаўчым структурам Берасьця. Гарвыканкам на сустрэчу згадзіўся. Працяг тэмы чытайце ў наступным нумары.

* * *

Сталі вядомыя вынікі конкурсу на лепшы праект помніка Еўфрасіньні Полацкай, які праводзіла Міністэрства Культуры. Перамог у ім малады скульптар Алесь Сомаў. Помнік у бліжэйшы час мяркуюць усталяваць у родным горадзе асьветніцы.

* * *

Усе школы Пінска замацаваныя ў якасьці «шэфаў» за калгасамі і саўгасамі Пінскага раёну. Да ведама гарана даведзены плян нарыхтоўкі сена, які і быў падзеляны паміж школамі гораду. Але ня ўсе настаўнікі жадаюць працаваць на сенакосе, у адной са школаў нават паспрабавалі адкупіцца — сабралі грошы ў эквіваленце заплянаванай колькасьці сена і перадалі старшыні «падшэфнай» гаспадаркі. Гэты «вопыт» адразу быў ацэнены як станоўчы, і адміністрацыя пачала рабіць спробы распаўсюдзіць яго і на іншыя школы. Але з рэзкай крытыкай выступіў СПБ пінскіх настаўнікаў. Актывісты СПБ распаўсюдзілі памфлетны артыкул, у якім асмейваліся па першае, спробы падштурхнуць настаўнікаў адкупіцца грашыма, і па другое, спробы прымусіць настаўнікаў (сярод якіх, як вядома, большасьць складаюць жанчыны) выконваць цяжкую працу касцоў.

* * *

6 траўня ў Віцебску адбылася чарговая сустрэча арганізацыяў, што ўваходзяць у Беларускую Асацыяцыю Рэсурсавых Цэнтраў (barc@user.unibel.by). Падобныя спатканьні праводзяцца штомесяц у розных гарадох краіны. Калі раней на такіх сустрэчах абмяркоўваліся толькі ўнутраныя пытаньні й праблемы , то зараз была зробленая яшчэ й спроба правесьці тэматычную дыскусію. Тэмай для размовы стала тэхналёгія працы зь інфармацыяй, яе пошук, збор, апрацоўка, давядзеньне да карыстальнікаў. Акрамя пастаянных удзельнікаў, на сустрэчу прыехала зь Менску супрацоўніца USIS. Яна распавяла пра прынцыпы працы рэсурсавых цэнтраў Амерыкі і расказала пра накірункі дзейнасьці USIS. Мяркуецца, што тэматычныя сустрэчы цяпер будуць праводзіцца кожны раз.

* * *

Напрыканцы мінулага тыдня баставалі рабочыя гарадзенскага тонкасуконнага аб'яднаньня. Прычына - несвоечасовая выплата заробкаў. Сярэдняя зарплата на тонкасуконным камбінаце складае зараз трохі больш за 30 тысячаў рублёў, а рабочыя прадзільнай фабрыкі, якія вырашылі баставаць, атрымліваюць у сярэднім 20-25 тысячаў. 17 траўня стыхійна праца была прыпыненая на дзьве гадзіны, на наступны дзень працоўныя не прыступалі да працы на працягу трох гадзінаў. У цэх прыйшоў генеральны дырэктар аб'яднаньня У.Крупін, які патлумачыў рабочым, што затрымка з зарплатай зьвязаная з тым, што гарадзенскі гарвыканкам не разьлічыўся з пазыкамі за ацяпленьне ў памеры 31 мільёна рублёў. Аднак гэнэральны дырэктар паабяцаў выплаціць зарплату за мінулы год у аўторак, а зарплату за красавік да 27 мая. Варта адзначыць, асабліва даверу ў рабочых словы дырэктара не выклікалі, бо падпрыемства ў асноўным прадукуе зімовы асартымент, які зараз не мае збыту і накапляецца на складах. Але пазьней сапраўды зарплата за мінулы год на прадпрыемстве была выплачаная.

*BARC-ID List*

* * *

Старшыня БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Вінцук Вячорка з 14 па 19 траўня знаходзіўся ў Лёндане па запрашэньне Міністэрства замежных справаў з афіцыйным візытам. Ён, паводле паведамленьня прэсавай службы БНФ, наведаў Палату грамадаў брытанскага парлямэнту, дзе меў спатканьні з усімі асноўнымі фракцыямі. Размова йшла пра пэрспэктывы дэмакратызацыі Беларусі, абарону нашай краіны ад замахаў на яе незалежнасьць з боку Расеі, а таксама стварэньне дэпутацкага клюбу Брытанія-Беларусь. Пытаньні міжпартыйнага супрацоўніцтва закраналіся на сустрэчы ў міжнародным аддзеле Кансэрватыўнай партыі. Адбылася гутарка з баранэсай Шатляндзкай, намесьніцай міністра замежных справаў, і ва ўсходнім аддзеле Foreign Office. Асобным пунктам былі сустрэчы з кіраўнікамі міжнародных аддзелаў найбуйнейшых брытанскіх газэт The Sunday Times, The Financial Times і The Guardian. У Міжнароднай службе брытанскай радыёперадавальнай карпарацыі (BBC World Service) В. Вячорка сустрэўся з кіраўнікамі дэпартамэнтаў і нацыянальных службаў. Зь Лёндану старшыня БНФ накіраваўся зь візытам у Вашынгтон у складзе дэлегацыі беларускае апазыцыі.

*Хартыя'97*

* * *

**Біўся галавою ля ўправы БНФ**

Каля 40 брытагаловых хлопцаў — «скінхэдаў» — напалі на двух маладафронтаўцаў пасля традыцыйнага чацьвярговага паседжання МФ. На той момант ва ўправе БНФ, дзе звычайна адбываюцца паседжанні, заставалася не больш дзесятка чалавек. Частка нападаўшых, стаўшы праз дарогу насупраць управы, распачала нецэнзурную лаянку ў адрас усіх «бэнээфаўцаў», скандзіравала: «Слава Расіі!», прапаноўвала выйсці і разабрацца, «хто гаспадар у Мінску». Малады Фронт выйшаў на «разборку», узяўшы ў рукі тронкі ад сцягоў, з якімі ў іншыя дні ходзяць на мітынгі, а праз 10 хвілінаў на дапамогу ім да ўправы пад'ехала некалькі сябраў спартыўна-патрыятычнай арганізацыі, якая называе сябе «Край». Менавіта ў гэты момант жаданне маладзёнаў з паголенымі галовамі «разабрацца» і скончылася — ужо праз хвіліну яны разышліся. Толькі адзін з іх, пачуўшы вокліч: «Жыве Беларусь!», некалькі разоў дэманстратыўна стукнуўся галавой аб сцяну.

*Вольга ГАРТНАЯ, «Наша свабода»*




Ах, они мягкого «р» не могут выговарить!




*... І парфумэрія*




*У артыстаў усё «з прыколам»*




*Такая ў вас і тэхніка*




*Ну, очэнь укусныя!*




*Ажаніўся расейскі магазін зь беларускаю крамаю. І нарадзіўся ў іх лінгвістычны кентаўр*







*Датэрмінова выпускаюць з турмы. Бываюць датэрміновыя прызідэнцкія выбары. А для білетаў існуе «папярэдні продаж»*




*Бясспрэчна, беларускія кабеткі з чыстага золата...*




*Яшчэ адзін кентаўр. Кульгавы, праўда*

***Па матэрыялах «Нашай нівы»***

Вось такія шыльдачкі сустракаюцца на вуліцах гарадоў Беларусі. У Віцебску ёсьць свае, ня горшыя "перлы". Прыглядайцеся ўважліва...

# Фотапогляд




*Фота з газэты «Продовольственный рынок»*

Задаюць у XXI стагодзьдзі вучням якой-небудзь вашынгтонскай і менскай школаў сказ для разбору: У краме была чарга па сасіскі. «А што такое чарга?» — пытаецца амэрыканец. «А што такое сасіскі?» — цікавіцца беларус.

* * *

Цытата з газэты «Советская Белоруссия»: «Тяжело вооружённая кулаками группа демонстрантов напала на мирно сидящих в танке милиционеров. В результате чего милиционерам были нанесены жестокие моральные увечия, демонстранты отделались лёгкими смертями».

* * *

— Говорит и показывает Москва!
Голас з-за кадра: «Працуюць усе астатнія»

* * *

На вуліцах Менска было праведзена сацыялагічнае апытаньне. Жыхарам сталіцы было прапанавана адказаць на пытаньне: «Як вы ставіцеся да міліцыі?». 15% апытаных выказалі сваё адмоўнае стаўленьне да людзей у форме, яшчэ 15% ухвалілі дзеянні міліцыі. Астатнія 70% «попросили предъявить документы».

*«Карчма «У старога Язэпа»*

# Крыжаванка



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

5. Андрэй, які запусціў на арбіту Лявоніху. 6. Сталоўка для дужа «крутых». 8. Беларускі пісьменнік — цёзка героя Дастаеўскага. 11. Цямніца для кніг. 14. Азіяцкі сваяк нашага аленя. 15. Малодшы брат веласіпеда. 16. Частка дзяржавы, якая ўклінілася ў чужую тэрыторыю. 17. Злая іронія. 20. Напой, які, на думку Дстапа Бэндара, можна вырабіць нават з табурэткі. 22. Тое, што дорага к абеду. 23. Ён заўсёды меншы, чым хацелася б, 26. Гераіня рамана М. Булгакава. 27. Апальная дачка цара ФіваўЭдыпа. 28. Дзявочае прозвішча горада Слаўгарада.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Сяструца стратэгіі. 2. Самалётны гараж. 3. Мара кінематаграфістаў. 4. Ліхадзей з рамана А. Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». 7. Сродак для шумнай «разборкі» сярод «браткоў». 9. Птушка, гатунак яблыкаў, сяло, дзе адбываліся падзеі ў знакамітай аперэце, мінскі мікрараён. 10. Рынак у Мінску, 12. Што Чычыкаў абяцаў падарыць малодшаму сыну Манілава? 13. Найбольшая вышыня пад'ёму самалёта. 18. Ідэалогія рэкеціра. 19. Тое, што ставяць рубам. 21. Прафесія Адама Казлевіча з «12 крэслаў». 24. Мянушка злодзея з фільма «Гонкі па вертыкалі». 25. Назва каменя, які выдае сябе за каштоўны.

*Склаў Б. ЖАВАРАНКАЎ г. Мінск, «Вожык»*

# КУР'ЁЗЫ З ЗАКАНАДАЎСТВА ЗША

У Александрыі (штат Мінесота) муж не мае права займацца сэксам са сваёй жонкай, калі ад яго пахне цыбуляй, часнаком, сардзінамі.

У Юрыне (штат Невада) вусатым мужчынам забаронена цалаваць жанчын.

У Невадзе нельга пераганяць вярблюдаў па шашы.

У Каліфорніі без правоў на паляванне нельга ставіць мышалоўку.

У Арканзасе муж мае права лупцаваць жонку не болей як раз у месяц, а ў Дэнверы — восем разоў, але толькі такім чынам, каб яна сваімі крыкамі не перашкаджала суседзям.

У Тэнесі нельга лавіць рыбу з дапамогай ласо.

У Фларыдзе адзінокія, разведзеныя і замужнія жанчыны не маюць права ў нядзелю ў другой палове дня скакаць з парашутам.

Ва Уілбарне (штат Ва-шынгтон) забаронена ездзіць на непрывабнай кабыле.

У Чыкага нельга абдымаць суседку без яе згоды.

У Адэсе (штат Аклахома) жанчынам нельга апранацца ў мініспадніцу, калі тэмпература паветра меней як 15 градусаў па Цэльсію.

У Сіэтле закон забараняе насіць зброю, калі яе даўжыня болей за 6 футаў.

У штаце Агая забараняецца перавозіць пасажыраў на даху таксі.

*Даслаў Сяргей ГОРСКІ, «Вожык»*

Улыбнись...
Улыбнись, и почувствуй,
что ты живёшь.
Улыбнись, унимая в себе эту дрожь,
Улыбнись... и когда-нибудь
ты всё поймёшь:
что не только птицы
умеют летать;
и огонь не один может
нас согревать;
что бывает и сказка,
и горечь разлук.
Улыбнись...
Всё пройдёт,
замыкая наш круг...

*Валерия Федотова*

* * *

Навошта? Прымаю заслону.
Адкрытае сэрца — у кавалкі
Парэжу. Ні крыку, ні стогну
Ніхто не пачуе ўранку.
Вясной, закаханай і п'янай,
Прыцісну твой подых да вуснаў.
У нябёсы ад усіх закаханых
Не перадоліць спакусы.
Вазьмі яго ўсё, калі хочаш,
А мне — ні кавалка. Ня трэба
Сушыць лусты хлеба ў дарогу:
Ты — у звычкі, а я — на неба.

*Люба Падзьвігіна*

Бюлетэнь **"ВЕРАС"**
*Рэдактары:* Яраслаў Манцэвіч, Андрэй Парфёнаў
*Паштовыя адрэсы:* gazeta@veras.f2s.com; Віцебск, 210032, а/с 29-А
*Заснавальнік:* Віцебская суполка моладзі "Верас" (vsm@veras.f2s.com). *Падтрымка:* USIS
*Выдавец:* Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". *Друк:* ВА Фонда імя Л. Сапегі
*Наклад* 250. На правах рукапісу. Дзеля ўнутранага карыстаньня. **Распаўсюджваецца бясплатна.**